ГАЗЕТА З БЕЛАРУСІ

# ГОЛАС РАДЗІМЫ

ВЫДАЕЦЦА З 1955 ГОДА ● ● NO.19 (3139) ● ● ЧАЦВЕР, 28 мая, 2009

ШТОТЫДНЁВІК "ГОЛАС РАДЗІМЫ" МОЖНА ЧЫТАЦЬ У ІНТЭРНЭЦЕ: WWW.GOLAS.BY



**Новая сустрэча з унікальным рарытэтам**

Жыхары Слуцка ўпершыню за сто год убачылі Евангелле, якое некалі перапісваў князь Юрый Алелькавіч Стар. 2



**Вытокі музыкі — на Міншчыне**

190-годдзе з дня нараджэння Станіслава Манюшкі адзначылі канцэртнай праграмай з твораў юбіляра Стар. 3



**Гэта — і наша перамога**

Стар. 4

# Праз шчырае слова — да сэрцаў

## З творамі паэта, празаіка, публіцыста, у свой час — аднаго з лідэраў вызваленчага руху Кубы Хасэ Марці цяпер могуць знаёміцца чытачы Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі

**Янка Яцкавец**

Так павялося, што менавіта пісьменнікі, мастакі і музыканты першымі дапамагаюць людзям з розных краін адкрываць сэрцы насустрач адзін аднаму. За імі ж, калі наладжаны давер, ідуць паглыбляць кантакты бізнесмены і палітыкі. Вось і на ўрачыстасць з нагоды перадачы кніг, якую зладзіла ў бібліятэчнай галерэі "Лабірынт" кубінскае пасольства, разам з кіраўнікамі і прадстаўнікамі дыпмісій былі запрошаны і беларускія сябры з Вострава Свабоды.

Член таварыства дружбы "Беларусь—Куба" — сёлета яму, дарэчы, 39 гадоў — мінчанка Алена Лях з цікавасцю вывучае гісторыю кубінскай рэвалюцыі, культуру краіны, піша артыкулы і нават вершы, прысвечаныя Кубе, яе гордым і свабодалюбівым грамадзянам. Алена вельмі ганарыцца аўтографам самога камандантэ, які нядаўна атрымала праз кубінскае пасольства. А вось 28-томны збор твораў Хасэ Марці "Edicion Critica"("Крытычнае выданне") на іспанскай мове, які перадаў у фонды бібліятэкі Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Кубы ў Беларусі Амар Сянон Медына Кінтэра, — гэта каштоўны дар усяму нашаму народу. Варта нагадаць, што на Кубе Хасэ Марці лічыцца нацыянальным героем, у розных лацінаамерыканскіх краінах яго ўшаноўваюць як прадвесніка незалежнасці. А ў літаратурных колах ён вядомы і як адзін з заснавальнікаў мадэрнізма.




ІВАН ЖДАНОВІЧ

Дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Раман Матульскі ўдзячны паслу Кубы Амару Сянону Медына Кінтэра за кнігі

У чым каштоўнасць падарунка? Пасол патлумачыў, што выданне шырокае па тэматыцы. 28 тамоў уключаюць як рукапісы Хасэ Марці, так і вялікі друкаваны матэрыял: хронікі, журналісцкую карэспандэнцыю, артыкулы, нарысы, звароты. Ёсць у кнігах і біяграфія аўтара. Змешчаны яго паэмы, навелы, творы для тэатра, пісьмы, тэксты публічных выступленняў, маніфестаў. Увайшлі ў выданне нават асобныя прысвячэнні, чарнавікі, запісныя кніжкі, фрагменты твораў, а таксама анатацыі, пераклады і малюнкі. "Гэта ўсё напісанае Хасэ Марці, што змаглі знайсці кубінцы да сённяшняга дня, – падкрэсліў Амар Сянон Медына Кінтэра. — І матэрыялы пра Лацінскую Амерыку — добрая база для знаёмства з нашай гісторыяй і культурай. Творы Хасэ Марці перакладзены на многія мовы, у тым ліку і рускую. Спадзяюся, будуць яны надрукаваны і па-беларуску. Ва ўсякім разе, наяўнасць такога выдання ў Беларусі — добры стымул для перакладчыкаў, каб знаёміць і іспанамоўных чытачоў з творамі беларускіх аўтараў".

Намеснік міністра культуры Беларусі Віктар Кураш сардэчна падзякаваў за падарунак. Ён адзначыў, што сувязі паміж краінамі мацнеюць. На ўзроўні ўрадаў прынята больш за 15 пагадненняў, якія збліжаюць нас у розных сферах жыцця: гандаль, культура, асвета… Асаблівую дынаміку кантактам надаў візіт Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі на Кубу ў 2000 годзе: тады быў падпісаны двухбаковы дагавор аб дружалюбных адносінах і супрацоўніцтве. "Цяпер мы актыўна абменьваемся вынікамі творчай дзейнасці, — сказаў В.Кураш. — Скажам, беларускія музыканты выконваюць творы кампазітараў Кубы. В. Кураш назваў перадачу кніг важным крокам на шляху ўмацавання дружалюбных адносінаў, бо "мы адзін аднаму цікавыя ў шматаблічнасці культур. Чым больш адзін пра аднаго ведаем — тым больш моцнымі будуць кантакты".

Між іншым, на цырымоніі прысутнічаў і намеснік міністра знешняга гандлю і замежных інвестыцый Кубы Рыкарда Герэра Бланка. Ён узначальвае кубінскую частку беларуска-кубінскай камісіі па гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве. І на наступны дзень распачаты, дзякуючы кнігам Хасэ Марці, дыялог прадоўжылі дзелавыя людзі: на ІХ пасяджэнні камісіі абмяркоўваліся перспектыўныя напрамкі двухбаковага гандлёва-эканамічнага і навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва Беларусі і Кубы.

# У люстэрку прэсы

## Вызначаны пераможцы конкурсу сярод беларускіх СМІ і журналістаў на лепшае асвятленне міжнацыянальных і міжканфесійных стасункаў

**Іосіф Якубаў**

Сутычкі, канфлікты, тэракты з чалавечымі ахвярамі… Амаль штодзень з розных куткоў планеты даходзяць трывожныя звесткі. Непаразуменні паміж людзьмі некаторыя палітолагі называюць глабальнай праблемай сучаснасці. У Беларусі ж, краіне на памежжы ўсходняй і заходняй цывілізацый, у згодзе жывуць прадстаўнікі больш чым 120 нацыянальнасцяў, і тут нямала робіцца для падтрымання атмасферы талерантнасці, верацярпімасці. У прыватнасці, у інфармацыйным, духоўным полі грамадства наладжаны жывы абмен рознымі думкамі,грамадзяне вучацца не толькі адстойваць сваю праўду, але і чуць праўду іншых. Для тых журналістаў, якія дапамагаюць шукаць згоду людзям розных нацый і канфесій, чарговае мерапрыемства ў Нацыянальным прэс-цэнтры стала адначасова і святам, і працай. Бо менавіта падчас круглага стала "Дыялог дыяспар: шматнацыянальная Беларусь — беларускае замежжа" і ўшаноўвалі лаўрэатаў конкурсу.

Упаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Леанід Гуляка нагадаў: конкурс праводзіцца сумесна апаратам Упаўнаважанага і Міністэрствам інфармацыі. Прычым калі летась на яго было пададзена 28 творчых праектаў, то сёлета ўжо больш за 40. "Мы парадаваліся, што праца рэдакцый газет, часопісаў, калектываў электронных СМІ і асобных журналістаў стваральная па сваёй сутнасці, — адзначыў Л. Гуляка. — Зрэшты, тэмы міжрэлігійных ці міжнацыянальных спрэчак, на шчасце, не актуальныя для нашага грамадства. Мы не збіраемся некаму дэманстраваць свае дасягнені. Але пагартайце публікацыі – і вы пераканаецеся: у нас нармальная сітуацыя як міжканфесійная, так і этнічная. І стасункі Беларусі з суайчыннікамі таксама гарманічныя".



МІХАІЛ РЫБАКОЎ

Радыёжурналістка Лілія Коршун — у ліку лаўрэатаў конкурсу

У прадстаўленых на конкурс праектах, удакладніў Л. Гуляка, пераважаюць матэрыялы пра жыццё прадстаўнікоў розных нацый на беларускай зямлі, дзейнасць створаных імі грамадскіх аб'яднанняў, міжнацыянальны і міжкультурны дыялог у краіне. Расказваецца і пра ўвагу дзяржавы да гэтых пытанняў, асвятляецца жыццё суайчыннікаў за мяжой, іх кантакты з гістарычнай радзімай. ➔ Стар. 3

# Новая сустрэча з унікальным рарытэтам


БЕЛТА

Жыхары Слуцка ўпершыню за сто год убачылі Евангелле, якое некалі перапісваў князь Юрый Алелькавіч

**Віктар Корбут**

Кніга да 1941 года захоўвалася ў Магілёве, адкуль знікла ў першыя дні Вялікай Айчыннай вайны. Бясследна, разам з крыжам Ефрасінні Полацкай. Каштоўнасці захоўваліся ў абласным краязнаўчым музеі. Калі ў 2003 годзе Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт прадставіў публіцы Евангелле, усе здзівіліся: адкуль яно "ўваскрэсла"? І вось цяпер, як выключэнне, два дні Евангелле экспанавалася ў Слуцкім краязнаўчым музеі.

Жыхары Слуцка не бачылі рэдкага выдання, мабыць, з часоў Расійскай імперыі. Калі да рэвалюцыі ў горадзе дзейнічаў Свята-Траецкі манастыр, свяшчэнны манускрыпт зберагаўся менавіта там. Евангелле напісана на царкоўнаславянскай мове карычневым чарнілам, з выкарыстаннем золата. Застаўкі і многія літары аздоблены геаметрычным і раслінным арнаментам.

Паводле слоў протаіерэя Мікалая Коржыча, сакратара Мінскага епархіяльнага ўпраўлення, рарытэтны рукапіс неўзабаве будзе перавыдадзены факсімільным спосабам — копію святыні змогуць сабе прыдбаць у кнігарнях усе шанавальнікі айчыннай старасвеччыны. Сродкі на друкаванне Слуцкага Евангелля вылучаны па даручэнні Прэзідэнта Беларусі.

Цікава, што кніга гэтая рукапісная, а значыць існуе ў адзіным экзэмпляры. Яна з'явілася тады, калі ўжо была выдадзена друкаваная "Бивлия руска" Скарыны. Але зрабіць копію Святога пісання ад рукі ўсё адно лічылася вельмі пачэснай працай. Евангелле перапісаў Юрый Алелькавіч — непасрэдны нашчадак вялікага князя літоўскага Гедыміна. З дынастыі Алелькавічаў, дарэчы, паходзіць і наша Жанна д'Арк — абаронца Слуцка ад татараў Анастасія, а таксама святая Соф'я Слуцкая, якую ўшаноўвае Беларуская праваслаўная царква і чые мошчы знаходзяцца ў мінскім Свята-Духавым кафедральным саборы. Такім чынам, Алелькавічы ўнеслі прыкметны ўклад у гісторыю культуры Беларусі. І гэта робіць іх спадчыну асабліва значнай для краіны.

# Да родных крыніц

Сярод замежнікаў, якія ўмацоўваюць здароўе ў беларускіх санаторыях, усё больш і нашых суайчыннікаў

**Іван Ждановіч**

Дзе правесці летні адпачынак? Многім з тых, хто жыве ў замежжы, хочацца на Радзіму. Мусіць, жаданне вяртацца да вытокаў такое ж неадольнае, як і прага новых дарог. Пагаворыш з чалавекам пасля "настальжытура" — і адразу бачна, як сагрэлася ягоная душа. А яшчэ можна набыць пуцёўку ў санаторый і падмацаваць тут здароўе. Так, дарэчы, і робяць штогод сотні грамадзян замежжа. Бо ў Беларусі, гавораць, "нават паветра лекавае".

З больш чым сотні беларускіх здраўніц ёсць што выбраць на любы густ. Папулярныя і тыя, што належаць да санаторна-курортнага прадпрыемства "Белагаздраўніца". "Многія ўжо ведаюць нашы санаторыі для дарослых: "Радон" у Дзятлаўскім раёне, "Сасновы бор" пад Мінскам, "Парэчча" непадалёк ад Гродна і "Рассвет-Любань" на Палессі, – расказвае Віктар Панамароў, намеснік генеральнага дырэктара прадпрыемства. – Ёсць у некаторых з іх аддзяленні для дзяцей, працуюць і дзіцячыя здраўніцы: "Сонейка" і "Случ" у Слуцкім раёне, "Налібоцкая пушча" пад Валожынам і "Расінка" ў Міёрскім раёне. Такая сетка санаторыяў стваралася доўгі час, кожны з іх размешчаны ў месцы пасвойму унікальным. Цяпер, дарэчы, мы праводзім рэканструкцыю, каб яшчэ больш якасна абслугоўваць кліентаў".

Не сакрэт, што станоўчы імідж санаторыяў складваецца гадамі. Віктар Аляксеевіч з гордасцю адзначае: з шасці прызавых месцаў у конкурсе на лепшую санаторна-курортную арганізацыю краіны па выніках работы ў 2008 годзе тры заваявала "Белаграздраўніца". Лепшым сярод санаторыяў для дарослых прызнаны "Сасновы бор", у лідэрах дзіцячыя "Расінка" і "Случ". "Шмат, вядома, залежыць і ад спецыялістаў, усяго персанала здраўніц, але першаснова аздараўлення ў Беларусі – прыродныя фактары: унікальныя крыніцы з мінеральнымі водамі, чыстае паветра, – разважае В.Панамароў. – Усе нашы санаторыі размешчаны ў сельскай мясцовасці, у барах і лясах. Скажам, у "Парэччы", на беразе возера Малочнае, лечыць вада друскінінкайскага тыпу: там недалёка літоўскі курорт Друскінінкай. І лекавыя крыніцы, як лічаць спецыялісты, падпітваюцца з тых жа, ці вельмі блізкіх па складзе гідрагеалагічных пластоў. А ў нашым санаторыі "Рассвет-Любань" аздараўлівае вада трускавецкага тыпу, яе ўздзеянне многім вядомае. Назва ж "Радон" гаворыць сама за сябе – у санаторыі ўсе праграмы лячэння заснаваны на выкарыстанні вады з утрыманнем радону. Ёсць лекавая вада і ў "Сасновым бары", пад Радашковічамі. Прывабнае гэтае "райскае месца", як сказаў мне адзін госць з Ізраіля, і тым, што знаходзіцца недалёка ад сталіцы".


КАНСТАНЦІН ЗЯНЬКОЎ
У санаторыі "Сасновы бор" лекавыя і вада, і паветра

Падчас адной з рабочых паездак у "Сасновы бор" Віктар Аляксеевіч пагадзіўся ўзяць з сабой журналістаў. Па праспекце Пераможцаў ён вывеў машыну за кальцавую аўтадарогу, праехалі праз Ждановічы, мінулі Мінскае мора, старажытны горад Заслаўе… "Між іншым, нашы санаторыі прапануюць кліентам экскурсіі па ўсёй Беларусі, у тым ліку і ў Нясвіж, Мірскі замак, у Белавежскую і Налібоцкую пушчы…" — заўважае Віктар Аляксеевіч.

Карпусы санаторыя — прама ў светлым бары, дзе заўсёды лёгка дыхаецца і гуляе жывое рэха. Надаюць сіл праменады ля збудаваннаў адзінага ў Беларусі гідрапарка, на берагах рэчкі можна сустрэць працавітых баброў, палюбавацца лебедзямі. Спецыялісты кажуць, што дзякуючы і такім прыродным фактарам тут паспяхова лечацца захворванні сардэчна-сасудзістай сістэмы. Ёсць у адпачываючых і добрая магчымасць сумясціць "лячэнне цела з ацаленнем душы". Чым актыўна карыстаюцца, скажам, нашы суайчыннікі з Ізраіля. Галоўны ўрач санаторыя "Сасновы бор" Канстанцін Зянькоў расказаў: штогод адтуль прылятаюць чартэрнымі рэйсамі мінімум тры групы, а гэта больш за сто чалавек. Грамадзяне Ізраіля, як правіла, вельмі дысцыплінаваныя ў прыёме працэдур. Да таго ж яны ахвотна наведваюць гістарычна блізкія ім мясціны, родзічаў і знаёмых не толькі ў Мінску, Міры, але і Бабруйску, Мазыры, Пінску і іншых гарадах і мястэчках.

Найбольш замежнікаў прыязджае ў "Сасновы бор", вядома ж, з Расіі. Масквічцы Тамары Колышкінай, з якой мы пазнаёміліся, сюды параілі прыехаць "на разведку" знаёмыя з-пад Заслаўя. У менеджэра буйной гандлёвай фірмы якраз была нагода парадавацца: "прыбыла з ціскам 175 на 110, а праз тыдзень ужо 130 на 80". І такі аздараўленчы эфект, удакладняе намеснік галоўурача санаторыя Віктар Арлоў, дасягаецца без усялякіх медыкаментаў. Прычым, па яго словах, падобныя прызнанні ён чуў і ад гасцей з Германіі, Літвы, Латвіі, Украіны… Здараецца, і пасля адпачынку на цёплых пляжах па здароўе людзі едуць усё ж у "Сасновы бор". Віктар Іванавіч згадвае, як нядаўна правільна падабраныя спецыялістамі працэдуры, масаж дапамаглі "цалкам аднавіць функцыі рукі" ў аднаго з кліентаў.

"Колькасць замежнікаў штогод павялічваецца, – разважае В.Панамароў. – У "Радоне" я пазнаёміўся з 60-гадовым бізнесменам з Берліна, які прыязджае ў санаторый 2-3 разы на год, і ён адкрыў мне такі сакрэт. Маючы праблемы з пазваночнікам, суставамі, немец падлічыў эканамічны эфект ад лячэння. І аказалася, што Хайнцу па грашах выгадней, чым траціцца на лекі дома, прыехаць у Беларусь на сваёй машыне на 15 дзён, прыняць 6-7 радонавых ваннаў і прайсці курс гразелячэння". Сустракаўся Віктар Панамароў і з групай беларусаў з Эстоніі, якія аздараўляліся ў "Радоне". Яны былі вельмі задаволены тым, як іх сустрэлі на Радзіме, і ўдзячны за падказку Ніне Савінавай з Таліна, старшыні Асацыяцыі беларусаў Эстоніі.

Цяпер у санаторыяў "Белагаздраўніцы", падзяліўся планамі В.Панамароў, ёсць цікавыя праекты супрацоўніцтва і з Беластоцкім ваяводствам Польшчы. Гэта вельмі перспектыўна, бо, напрыклад, жыхары Гродзеншчыны нядрэнна ведаюць польскую мову, а для палякаў з памежных ваяводстваў блізкая беларуская.

Між іншым, летась наша газета расказвала, што група эстонцаў гасцявала і ў санаторыі "Крыніца" пад Мінскам, а таксама пра намер Асацыяцыі стварыць у Таліне беларускі турыстычна-інфармацыйны цэнтр. Мяркую, сёлета з'явяцца новыя адрасы такога карыснага для здароўя супрацоўніцтва. А тым, хто бываў у нашых здраўніцах, прапануем напісаць пра ўражанні ў рэдакцыю.

# Другое жыццё шэдэўра

## Жывапіснае палатно зноў упрыгожыць столь Нясвіжскага замка

Некалькі гадоў таму пры пажары ў замку пацярпела столевае палатно, на якім была намалявана багіня Леда. Тады выратаваць яго было немагчыма — пасля таго, як агонь патушылі, мастацкі шэдэўр стаў нагадваць суцэльны пухір з вадой.

І вось, дзякуючы намаганням спецыялістаў, малюнак на палатне неўзабаве будзе адноўлены. Рэстаўратарам ужо ўдалося замацаваць пласт фарбы і ліквідаваць уздуцце ад вады. Каб не пашкодзіць жывапіс, у працэсе гэтай работы былі выкарыстаны тысячы лістоў папяроснай паперы: на іх наносілі спецыяльны асятровы клей, потым здымалі, і чысцілі ад пылу і бруду.

Напачатку восені шэдэўр невядомых мастакоў XIX стагоддзя вернуць у Нясвіжскі замак. Унікальнасць палатну надае і той факт, што яно было зроблена з суцэльнага кавалка ільну агульнай плошчай у 36 квадратных метраў. Гісторыкам яшчэ трэба высветліць імя стваральніка. Мастацтвазнаўцы адзначаюць вельмі моцную школу майстра. Магчыма, над класічным сюжэтам у стылі барока працавала некалькі чалавек, напрыклад, мастак-настаўнік са сваімі вучнем.



Рэстаўратары не часта маюць справу з жывапіснымі палотнамі такой велічыні

# Вытокі музыкі — на Міншчыне

## 190-годдзе з дня нараджэння Станіслава Манюшкі адзначылі канцэртнай праграмай з твораў юбіляра

**Людміла Мінкевіч**

Выдатны кампазітар, дырыжор і педагог. Класік вакальнай лірыкі. Стваральнік польскай нацыянальнай оперы. І адначасова — пачынальнік прафесійнай музыкі беларускай. Гэта яна гучала ў Мінску ў лютым 1852 года на прадстаўленні оперы "Ідылія" на словы Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Адбылася прэм'ера на сцэне мінскага гарадскога тэатра, які размяшчаўся там, дзе цяпер узвышаецца адноўлены гатэль "Еўропа". Слухачы доўга апладзіравалі і паэту, які сыграў у "Ідыліі" ролю войта Навума, і кампазітару, прысутнаму на прэм'еры, бо добра іх ведалі. Для абодвух, як пісаў В. Дунін-Марцынкевіч, "Мінская зямелька" была "родненькай маткай".

Станіслаў Манюшка нарадзіўся на Ігуменшчыне (цяпер Чэрвеньскі раён), у фальварку Убель (там цяпер стаіць памятная стэла) 5 мая 1819 года. Бацька будучага кампазітара Чеслаў, здольны мастак, арганізоўваў летам сялянскія прадстаўленні-канцэрты. І Станіслаў з дзяцінства добра ведаў беларускія народныя песні, мелодыі якіх выкарыстаў у "Хатніх спеўніках", операх "Галька" і "Страшны двор".

Сёлета Польскі інстытут у Мінску і трыо "Вытокі" ў складзе Ірыны Аўдзеевай (фартэпіяна), Сяргея Махава (флейта) і Аляксея Фралова (фагот) падрыхтавалі найлепшы падарунак Манюшку ў дзень яго народзін. У сценах Дзяржаўнага музея гісторыі музычнай і тэатральнай культуры (тут, дарэчы, некаторы час здымаў кватэру бацька Станіслава ў час вучобы сына ў Мінскай гімназіі) прагучала канцэртная праграма з твораў самога юбіляра, яго сяброў і сучаснікаў В.Дуніна-Марцінкевіча, Н.Орды, М.Ельскага і іншых.

Манюшкаўская "Малітва" распачала праграму "Тут узрастала муза твая", адарыўшы гасцей ў зале святлом і супакоем. Слухаючы твор, міжволі ўспамінаеш, як рускі кампазітар Аляксандр Сяроў слушна параўноўваў творы Манюшкі з шэдэўрамі Шуберта, Шумана, Глінкі, Даргамыжскага.

А праз хвіліну трыо пачало іграць спецыяльную "лясную" падборку з "Хатніх спеўнікаў" Манюшкі, слухачы быццам апынуліся ў дуброве, побач са звярамі і птушкамі. У песні "Мядзведзік" чуецца, як гучна тупае звер, пераступаючы лапамі па зямлі. "Зязюлька" нагадвае, як пырхае з галінкі на галінку птушка, заліваючыся спевам. А кампазіцыя "Вясна" асабіста для мяне паказалася невялікім урыўкам з кінафільма з мноствам дзеянняў і рухаў: высоўвалі з-пад снегу вочкі пралесак, узніміліся ў неба першыя жаваранкі...

На вечарыне згадвалася, што С. Манюшка, як і Шапэн, закладваў асновы нацыянальнай вакальнай музыкі. Рыгор Шырма адзначыў: у творчасці Манюшкі "такое багацце песенных і танцавальных народных інтанацый, што часам ствараецца ўражанне, што ты дзесьці пад Слуцкам ці каля Мінска на народным свяце".




Станіслаў Манюшка

Прагучалі на вечары творы яшчэ аднаго юбіляра — кампазітара Фларыяна Міладоўскага. Ён, як і Манюшка, вучыўся ў Берліне, сябраваў з Ф. Мендэльсонам, Ф.Шапэнам, Ф.Лістам. Згадваючы пра высокі аўтарытэт і вялікую ролю сёлетніх юбіляраў, мінскі музычны дзеяч XIX стагоддзя А. Валіцкі пісаў: "Міладоўскі і Манюшка да апошняга часу былі дзвюма пальмамі ў выпаленай пустыні, пад ценем якіх музыка магла знайсці сабе прытулак".

Неўзабаве трыо "Вытокі" зладзіць юбілейны тур па Чэрвеньшчыне. Закончацца ж юбілейныя ўрачыстасці 10 чэрвеня канцэртам у мінскай філармоніі з прэзентацыяй кампакт-дыска "Новае неба Станіслава Манюшкі".

# У люстэрку прэсы

**(Працяг. Пачатак на стар. 1)**

Вялікая ўвага і да пытанняў духоўнасці, свабоды веравызнання. Матэрыялы прадстаўлены як асобнымі артыкуламі, так і цэлымі падборкамі. Важна, што некаторыя выданні вядуць на гэтыя тэмы пастаянныя рубрыкі, і журналісты глыбока ўнікаюць у сутнасць таго, пра што пішуць.

Намеснік Міністра інфармацыі Ігар Лапцёнак падкрэсліў: інфармацыйнае поле Беларусі цяпер вельмі шырокае, а паколькі тут жывуць людзі розных нацыянальнасцяў, то і прывабнае для выдаўцоў замежжа. Таму, дарэчы, у выставе "СМІ ў Беларусі" ўдзельнічалі прадстаўнічыя дэлегацыі з 10 краін. "Без інфармацыйнай падтрымкі ў наладжванні міжнацыянальных і міжканфесійных зносінаў, у развіцці міжкультурнага дыялогу ў Беларусі, у супрацоўніцтве з суайчыннікамі за мяжой, на мой погляд, было б значна менш набыткаў, — лічыць І.Лапцёнак. — Узнагароды атрымліваюць тыя журналісты, якія працуюць на гэтых дзяржаўна важных і адказных дзялянках найбольш руплiва". Ён нагадаў, што Міністэрства інфармацыі — сувыканаўца Дзяржаўнай праграмы развіцця канфесійнай сферы, нацыянальных стасункаў і супрацоўніцтва з суайчыннікамі за мяжой, якая цяпер рэалізуецца. Пад праекты выдзелены значныя сродкі, праводзіцца шэраг мерапрыемстваў. У прыватнасці, ёсць пастаянныя кантакты журналістаў з прадстаўнікамі праваслаўнай царквы, іншых канфесій. Таму і публікацыі іх атрымліваюцца змястоўнымі і цікавымі.

Пахвальныя граматы, Падзячныя пісьмы і спецыяльныя прызы ад арганізатараў конкурсу атрымалі больш за 30 калектываў і журналістаў раённых, абласных, рэспубліканскіх газет, іншых СМІ. У ліку пераможцаў — і тыя, хто працуе над газетай "Голас Радзімы": спецыяльны карэспандэнт Іван Ждановіч, а таксама патрыярх журналістыкі, вядомы даследчык літаратуры і беларускай дыяспары прафесар Адам Мальдзіс.

# Сяброў сустракалі гасцінна

**Галіна Малахава**

**У Мінску пабывалі ліцэісты з Гайнаўкі Беластоцкага ваяводства, якія вывучаюць беларускую філалогію**

Праграма знаходжання дэлегацыі была насычанай. Ліцэістаў з Польшчы хлебам-соллю сустракалі вучні сталічных гімназій. Госці наведалі музей Нацыянальнага каларыту і матэрыяльнай культуры ў Дудутках, гісторыка-культурны комплекс каля Заслаўя. Пагледзелі яны і спектакль у Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі паводле твора Уладзіміра Караткевіча "Каласы пад сярпом тваім".

Дзесяцікласніца Гайнаўскага ліцэя Кацярына Янцэвіч упершыню пабывала ў Мінску. Пасля заканчэння 12-га класа яна плануе паступіць у адну з мінскіх вну на аддзяленне беларускай філалогіі. "У нашым ліцэі займаецца 120 вучняў па чатырох профілях: гуманітарным, фізіка-матэматычным, біёлага-хімічным, геаграфічным. Дадаткова вывучаюць беларускую мову і літаратуру (чатыры гадзіны на тыдзень). Падчас паездкі мы зразумелі, што можам свабодна мець зносіны з беларускімі аднагодкамі", — расказала Кацярына Янцэвіч.

Ян Карчэўскі, кіраўнік дэлегацыі, выкладчык беларускай мовы і літаратуры Гайнаўскага ліцэя, у Мінску быў ужо дзесяты раз. Раней разам з беларускімі калегамі ў Інстытуце павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў (цяпер — Мінскі гарадскі інстытут развіцця адукацыі) быў тут на курсах. Наведваў сяброў, прывязджаў па падручнікі. А яшчэ суправаджаў польскіх старшакласнікаў на рэспубліканскую алімпіяду па беларускай мове, якая штогод праводзіцца ў нашай краіне. Ян Карчэўскі сам рыхтуе выхаванцаў да інтэлектуальных выпрабаванняў, ён аўтар падручніка "Сучасная беларуская літаратура".

# Гэта — і наша перамога

## Роздум пра выступленне Аляксандра Рыбака на “Еўрабачанні — 2009”

**Адам Мальдзіс**


БЕЛТА

**У спевака з Нарвегіі Аляксандра Рыбака — беларуская душа**

Пераважная большасць сродкаў масавай інфармацыі свету паведаміла, што ашаламляльную перамогу на міжнародным конкурсе “Еўрабачанне — 2009” атрымаў 23-гадовы грамадзянін Нарвегіі Аляксандр Рыбак. Максімальныя 12 балаў аддалі за яго не толькі Беларусь і Расія, але і такія краіны, як Галандыя, Ізраіль, Іспанія, Ісландыя, Славенія. Будучы раней да еўрашоў абыякавым, сёлета і я далучыўся да прапановы сына пасляць у Маскву SMSку ў падтрымку. І не толькі таму, што па “Еўрабачанні” пачуў пра беларускае паходжанне нарвежца, але найперш таму, што, пераканаўся: з дзяцінства, з пачутых “Калыханак” і казак, у Аляксандра Рыбака засталася беларуская душа. Для яго важна не так відовішчнасць, як мелодыя, словы, шчырасць выканання песні.

Здзівіла мяне пэўнае рэагаванне на перамогу Рыбака. Напрыклад, ананімны аўтар у адной з газет апраўдваецца, што, у адрозненне ад нарвежскіх і некаторых беларускіх СМІ ён не стаў называць спевака “новай зоркай”, бо “зваць Рыбака “наш” або “беларус” яны (сродкі) маюць вельмі сумнўныя права. Вядома, таленавіты музыкант нарадзіўся ў Беларусі і не забывае сваіх каранёў. Аднак выканаўца ўзяў у рукі скрыпку амаль тады ж, калі з’ехаў з Сінявокай, без адмысловай помпы быў абраны нарвежцамі на конкурс і не ўгадваўся беларусамі, пакуль не стаў вядомым…” Што ж гэта выходзіць: Беларусь — нібы адзіная краіна ў свеце, якая не мае сваёй дыяспары? А як жа тады быць з Міцкевічам ці Манюшкам, Чэрскім ці Судзілоўскім, Шагалам ці Суцінам? Атрымліваецца, што імі зусім не маем ніякага права ганарыцца, бо гэтыя выдатныя сыны зямлі беларускай, хоць і любілі яе, ганарыліся ёю, але беларусамі сябе не лічылі. І што — мы ведалі б іх, згадвалі б іх, як і Рыбака да конкурсу, калі б яны “не сталі вядомымі”?!

Куды больш патрыятычнай здаецца мне пазіцыя газеты «Комсомольская правда в Белоруссии». Таццяна Шахновіч змясціла ў ёй каля дзесяці артыкулаў, прысвечаных Аляксандру Рыбаку, прывяла неаспрэчныя доказы яго беларускасці. Зінаіда Гурына, бабуля спевака, на пытанне карэспандэнта, а хто ж яе ўнук па нацыянальнасці, адказала так: “Я нават не сумняваюся, вядома, беларус. Так, ён вывучыў нарвежскую мову, усмактаў іншую культуру, але ў душы ён беларус”. А Аляксандр Ціхановіч лічыць: “У цэлым, у ім сабраны ўсе самыя лепшыя рысы беларусаў”. Урэшце, сам Рыбак на пытанні, ці памятае ён свае карані і ці дапамаглі яны яму ў перамозе, адказаў: “Так, я лічу, што гэта адыграла сваю ролю. Беларусь вядомая сваёй нейкай меланхалічнасцю і лірычнасцю, у Нарвегіі ж жывуць (матэрыяльна. — *А.М.*) самыя шчаслівыя людзі ў свеце. Мне здаецца, гэты мікс і прывёў да перамогі”.

Аднак самы важкі для мяне аргумент я знайшоў у артыкуле Вікторыі Паповай “Казка пра Рыбака і песню” (“СБ”. 2008. 24 лютага). На пытанне, ці не пашкадаваў бацька спевака, што выехаў у Нарвегію, музыкант і кампазітар Ігар Рыбак адказаў з годнасцю: “Я нясу нашу беларускую культуру ў Еўропу…” І далей прыводзяцца прыклады таго, што культура гэтая менавіта беларуская: бацька піша музыку на вершы Багдановіча, а сын іх з поспехам выконвае. А ў выніку Беларусь перастае быць у Нарвегіі невядомай краінай. Праўда, адной сям’і тут цяжка штосьці істотнае зрабіць. Вунь у суседняй Швецыі з’явіўся спачатку беларускі мастак і філосаф Александэры Ахола-Вало, затым вядомы ў Еўропе жывапісец і скульптар Ян Кузьміцкі. Пачаў пісаць па-шведску і па-беларуску мастацкія творы Дзмітрый Плакс, даследуе супольныя старонкі гісторыі і выкладае ў Паўднёвастакгольмскім універсітэце ўраджэнец Тураўшчыны Андрэй Катлярчук. І вось вынікі: распрацоўваюцца сумесныя культурныя праекты, а пасол Швецыі ў Беларусі бегла загаварыў па-беларуску. Такі ж ланцужок, верыцца, пачнецца з Рыбаковў у Нарвегіі. Праўда, пакуль Мінск і Осла не абмяняліся пасламі, але ж існуе інстытут ганаровых пасланнікаў. І Рыбак, абвешчаны пасля вяртання “нацыянальнай зоркай Нарвегіі”, думаецца, з поспехам мог бы выконваць такую ганаровую місію. А то, аказваецца, нават прэм’ер-міністр Нарвегіі Йенс Столтэнберг не ведае пра беларускія карані Рыбака.

І апошняе. Добра, што мы заўважылі (але яшчэ як след не ацанілі!) Аляксандра Рыбака пасля перамогі. Але яшчэ лепш было б заўважаць такія таленты да падзей, весці згуртавальную работу сярод дыяспараў, аб чым гаварылася на “круглым стале”, пра які наша газета падрабязна расказвала ў мінулым нумары. Каму весці? І грамадскім аб’яднанням, і адпаведным урадавым установам, найперш пасольствам. Варта расказваць пра такіх асоб, як Рыбак (а іх — тысячы) хаця б у энцыклапедычных даведніках.

# Скарбы Ашмянскага краю

**У галерэі “Ракурс” Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі разгорнуты цікавы гісторыка-культурны праект**

Праект “Скарбы роднага краю: Ашмяншчына” падрыхтаваны да Года роднай зямлі. Ён расказвае пра слаўную гісторыю і духоўныя багацці Ашмянаў і іх навакольляў. На адкрыцці праекта добрыя музычныя падарункі гасцям зрабілі ашмянскія творчыя калектывы.

У экспазіцыі прадстаўлены гістарычныя матэрыялы, шмат кнігаў, паштовак, буклетаў, а таксама фотаработы, вырабы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва майстроў Ашмянскага раёна. Працуе ў галерэі і персанальная выстава члена Беларускага саюза мастакоў С.Шэмета “Пра Радзіму — з любоўю...” А выдавецтва “Юніпак” прадстаўляе цэлы шэраг друкаванай прадукцыі, прысвечанай Ашмянскаму раёну і яго гісторыі. У прыватнасці, шмат увагі да вядомай працы Крыштафа Дарогастайскага “Гіпіка, ці Кніга пра коней”, у перавыданні якой удзельнічалі супрацоўнікі Нацыянальнай бібліятэкі.

# Сутнасць — цераз імгненні



УЛАДЗІМІР ЖДАНОВІЧ

**Уладзімір Ждановіч**

**Чым жыве сучасная Чэхія — можна пабачыць у мінскім Палацы мастацтваў**

Выстава чэшскіх фатографаў “Адзін дзень у Чэшскай Рэспубліцы” арганізавана пасольствам Чэхіі ў Беларусі сумесна з Беларускім саюзам мастакоў. На фатаграфіях можна разглядзець як твары простых метрабудаўнікоў з Прагі, жыхароў людзей з правінцыі, так і, напрыклад, партрэт былога міністра замежных спраў Чэхіі Карэла Шварцэнберга.

На адкрыцці выставы Часовы Паверраны ў справах Чэхіі ў Беларусі Йіржы Карас адзначыў, што на фотаздымках зафіксавана хроніка самага звычайнага для Чэхіі дня, і ўсё ж таленавітыя фотамайстры стварылі арыгінальны і шчыры партрэт сваёй краіны з высокай выяўленчай глыбінёй. Дыпламат паведаміў, што выстава ўжо атрымала высокую ацэнку ў Аўстраліі, Германіі, ЗША, Ізраілі, Украіне, Японіі. У далейшым яна будзе захоўвацца ў Празе, у Нацыянальным архіве Чэхіі — на працягу 30 гадоў. І затым ізноў пачне экспанавацца. У 2038 годзе.

# Здольнасць быць шчаслівым

**Надзея Басава**

**У Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры зноў прэм’ера**


ІВАН ЖДАНОВІЧ

**У новым спектаклі вясёлы, аптымістычны фінал**

Спектакль “Праўда — добра, а шчасце — лепш” — гэта ўжо дзевятая пастаноўка Аркадзя Каца ў Мінску. Народны артыст Латвіі, народны артыст Украіны зноў звяртаецца да камедый Аляксандра Астроўскага. “Ёсць нейкая схільнасць у рэжысёраў да пэўных аўтараў. Менавіта Астроўскі ўмее, як ніхто іншы, вырашаць самыя найскладанейшыя праблемы праз смешнае. А сёння праз камедыю можна найбольш праўдзіва і цікава размаўляць з гледачом. Наогул, цяпер без іроніі вельмі складана весці гаворку”, — прызнаецца Аркадзь Кац.

“Праўда — добра, а шчасце — лепш” — гэта вясёлая, смешная, сентыментальная і мудрая гісторыя аб праўдзе, а таксама аб тым, што шчасце ёсць, калі ёсць у нашых душах здольнасць быць шчаслівым. Спектакль прымушае гледача задумацца аб вечных каштоўнасцях жыцця. А гісторыя аб сапраўдным каханні са шчаслівым фіналам дапамагае паверыць у тое, што такое і ў жыцці магчыма.

# Адметная з’ява

**Сёлета спаўняецца 120 гадоў з часу першага апублікавання паэмы “Тарас на Парнасе”**

Існуе здагадка, што аўтарства “Тараса на Парнасе” належыць беларускаму літаратару Кастусю Вераніцыну. Нагодай для гэтага паслужылі паметкі з тэкстам паэмы, знойдзеныя даследчыкамі ў рукапісных сшытках паэта і фалькларыста Аляксандра Рыпінскага.

У цэнтры твора — прыгоды лесніка Тараса, які выпадкова трапіў на Парнас (месца знаходжання антычных багоў і паэтаў). Аўтар яскрава апісвае побыт беларускіх сялян, з вялікай сімпатыяй прадстаўляе адзін з першых рэалістычных вобразаў чалавека з народа ў беларускай літаратуры — вобраз Тараса. У паэме адлюстравана барацьба ідэйных кірункаў у рускай літаратуры сярэдзіны XIX стагоддзя, сатырычныя выпады супраць славянафільскай ідэалізацыі патрыярхальнага побыту.

Па сваёй дэмакратычнай сутнасці твор скіраваны супраць эстэтыкі афіцыйнай народнасці і псеўданароднасці.

**Заснавальнік:** Рэдакцыя газеты «СБ»
**Рэдактар** Віктар Харкоў
**Адрас:** пр. Незалежнасці, 44, Мінск, 220005
**Рэгістрацыйнае пасведчанне № 61**
**Тэлефон рэдакцыі:** +375 17 288—12—80; факс: +375 17 288—12—80
**Бюро па рэкламе:** Тэл. +375 17 290—60—11
**E—mail:** golas_radzimy@tut.by
Газета надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
**Аб’ём выдання:** 1 друк. арк.
**Тыраж:** 2000
**Заказ:** 659